# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 1 (2247) 2 студзеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.



1991 год пад канец свайго бегу абрастаў падзеямі, бы снежны ком. Бадай, з усіх найважнейшыя адбыліся 21 і 25 снежня.

21 снежня ў сталіцы Казахстана Алма-Аце лідэры суверэнных рэспублік Беларусі, Украіны, Расіі, Узбекістана, Казахстана, Таджыкістана, Азербайджана, Арменіі, Туркменістана, Малдовы і Кыргызстана падпісалі Пратакол да Пагаднення аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў, Алма-Ацінскую дэкларацыю і іншыя дакументы. А 25 снежня пакінуў свой пост першы і апошні Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў.

Людзі заўсёды шукаюць у датах падзей патаемнага сэнсу, нейкіх аналогій. Калі меркаваць так, то падпісанне Пратакола аб Садружнасці адбылося ў дзень нараджэння «бацькі народаў» Іосіфа Сталіна, а адрачэнне Міхаіла Гарбачова—у дзень нараджэння збаўцы народаў Хрыста. Што прадракаюць нам гэтыя падзеі!

(Выступленне М. Гарбачова змешчана на 2-й стар.).

НА ЗДЫМКУ: абмеркаванне праекта Пагаднення за круглым сталом у Доме дружбы ў Алма-Аце.

## АЛМА-АЦІНСКАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ

Незалежныя дзяржавы — Азербайджанская Рэспубліка, Рэспубліка Арменія, Рэспубліка Беларусь, Рэспубліка Казахстан, Рэспубліка Кыргызстан, Рэспубліка Малдова, Расійская Федэрацыя (РСФСР), Рэспубліка Таджыкістан, Туркменістан, Рэспубліка Узбекістан і Украіна,

імкнучыся пабудаваць дэмакратычныя прававыя дзяржавы, адносіны паміж якімі будуць развівацца на аснове ўзаемнага прызнання і павагі дзяржаўнага суверэнітэту і суверэннай роўнасці, неад'емнага права на самавызначэнне, прынцыпаў раўнапраўя і неўмяшання ва ўнутраныя справы, адмовы ад прымянення сілы і пагрозы сілай, эканамічных і любых іншых метадаў націску, мірнага ўрэгулявання спрэчак, павагі і правоў і свабод чалавека, уключаючы правы нацыянальных меншасцей, добрасумленнага выканання абавязацельстваў і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і норм міжнароднага права;

прызнаючы і паважаючы тэрытарыяльную цэласнасць адна адной і непарушнасць існуючых граніц;

лічачы, што ўмацаванне маючых глыбокія гістарычныя карані адносін дружбы, добрасуседства і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва адпавядае карэнным інтарэсам народаў і служыць справе міру і бяспекі;

усведамляючы сваю адказнасць за захаванне грамадзянскага міру і міжнацыянальнай згоды;

будучы прыхільнымі мэтам і прынцыпам пагаднення аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў,

заяўляюць аб ніжэйпададзеным:

Узаемадзеянне ўдзельнікаў Садружнасці будзе ажыццяўляцца на прынцыпе раўнапраўя праз каардынуючыя інстытуты, якія фарміруюцца на парытэтнай аснове і дзейнічаюць у парадку, вызначаемым пагадненнямі паміж удзельнікамі Садружнасці, якое не з'яўляецца ні дзяржавай, ні наддзяржаўным утварэннем.

У мэтах забеспячэння міжнароднай стратэгічнай стабільнасці і бяспекі будзе захавана аб'яднанае камандаванне ваенна-стратэгічнымі сіламі і адзіны кантроль над ядзернай зброяй; бакі будуць паважаць імкненне адзін аднаго да дасягнення статуса бяз'ядзернай і (або) нейтральнай дзяржавы.

Садружнасць Незалежных Дзяржаў адкрыта са згоды ўсіх яе ўдзельнікаў для далучэння да яе дзяржаў — членаў былога Саюза ССР, а таксама іншых дзяржаў, якія падзяляюць мэты і прынцыпы Садружнасці. Пацвярджаецца прыхільнасць супрацоўніцтву ў фарміраванні і развіцці агульнай эканамічнай прасторы, агульнаеўрапейскага і еўразійскага рынкаў.

З утварэннем Садружнасці Незалежных Дзяржаў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік спыняе сваё існаванне.

Дзяржавы — удзельніцы Садружнасці гарантуюць у адпаведнасці са сваімі канстытуцыйнымі працэдурамі выкананне міжнародных абавязацельстваў, якія вынікаюць з дагавораў і пагадненняў былога Саюза ССР.

Дзяржавы — удзельніцы Садружнасці абавязваюцца няўхільна выконваць прынцыпы гэтай Дэкларацыі.

За Азербайджанскую Рэспубліку А. МУТАЛІБАЎ

За Расійскую Федэрацыю (РСФСР) Б. ЕЛЬЦЫН

За Рэспубліку Арменія Л. ТЭР-ПЕТРАСЯН

За Рэспубліку Таджыкістан Р. НАБІЕЎ

За Рэспубліку Малдова М. СНЕГУР

За Рэспубліку Казахстан Н. НАЗАРБАЕЎ

За Рэспубліку Узбекістан І. КАРЫМАЎ

За Рэспубліку Кыргызстан А. АКАЕЎ

За Украіну Л. КРАЎЧУК

За Рэспубліку Беларусь С. ШУШКЕВІЧ

За Туркменістан С. НІЯЗАЎ

Алма-Ата, 21 снежня 1991 г.

*РЭВАЛЮЦЫЯ НЕ ДАЛА ТАГО, ЧАГО АД ЯЕ ЧАКАЛІ*

## ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ НАС НЕ ПАКІНЕ

**Гутарка з Нілам ГІЛЕВІЧАМ, паэтам, старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, адбылася ў перапынку паміж пасяджэннямі сёмай сесіі Вярхоўнага Савета 10 снежня 1991 года. Ён прыйшоў у свой кабінет расстроены і расчараваны: дэпутаты зноў не прынялі пастанову аб беларускай мове ў сродках масавай інфармацыі. «Не хапіла ўсяго некалькіх галасоў. На наступным пасяджэнні прыйдзецца зноў тлумачыць і даказваць неабходнасць прыняцця такога рашэння», — заклапочана сказаў Ніл Сямёнавіч.**

**Тэмай нашай гутаркі была, вядома, культура, яе стан, перспектывы, але хіба можа яна сёння існаваць у адрыве ад нашых сумных рэалій! Таму і папрасіла я Ніла Гілевіча адказаць, як ставіцца ён да пагаднення, падпісанага амаль напярэдадні кіраўнікамі 3-х славянскіх дзяржаў.**

— Да сустрэчы пад Брэстам і рашэнняў, прынятых на ёй, стаўлюся станоўча, з разуменнем, што такі крок быў неабходны і зроблены ён у выніку аналізу рэальнага стану рэчаў у краіне. Саюз, які існаваў дзесяцігоддзі, разваліўся, разваліваюцца эканамічныя і іншыя сувязі. Атрымалася тупіковая сітуацыя.

**— А ці дапаможа нам з яе выйсці стварэнне Саюза Незалежных Дзяржаў!**

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# РАЗВІТАЛЬНАЯ ПРАМОВА ПРЭЗІДЭНТА

25 снежня Міхаіл Гарбачоў выступіў па Цэнтральнаму тэлебачанню са зваротам да народа.

Дарагія суайчыннікі! Суграмадзяне!

У выніку ўзнікшай сітуацыі з утварэннем Садружнасці Незалежных Дзяржаў я спыняю сваю дзейнасць на пасадзе Прэзідэнта СССР. Прымаю гэтае рашэнне па прынцыповых меркаваннях.

Я цвёрда выступаў за самастойнасць, незалежнасць народаў, за суверэнітэт рэспублік. Але адначасова і за захаванне саюзнай дзяржавы, цэласнасці краіны.

Падзеі пайшлі па іншым шляху. Перамагла лінія на расчляненне краіны і раз'яднанне дзяржавы, з чым я не магу пагадзіцца.

І пасля алма-ацінскай сустрэчы і прынятых там рашэнняў мая пазіцыя на гэты конт не змянілася.

Акрамя таго, перакананы, што рашэнні падобнага маштабу павінны былі б прымацца на падставе народнага волевыяўлення.

Тым не менш я буду рабіць усё, што ў маіх магчымасцях, каб пагадненні, якія там падпісаны, прывялі да рэальнай згоды ў грамадстве, аблягчылі б выхад з крызісу і працэс рэформ.

Выступаючы перад вамі апошні раз у якасці Прэзідэнта СССР, лічу патрэбным выказаць сваю ацэнку пройдзенага з 1985 года шляху. Тым больш што на гэты конт нямала супярэчлівых, павярхоўных і неаб'ектыўных меркаванняў.

Лёс так распарадзіўся, што, калі я аказаўся на чале дзяржавы, ужо было ясна, што з краінай нядобра. Усяго многа: зямлі, нафты і газу, іншых прыродных багаццяў, ды і розумам і талентам Бог не абдзяліў, а жывём куды горш, чым у развітых краінах, усё больш адстаём ад іх.

Прычына была ўжо бачная: грамадства задыхалася ў цісках каманднa-бюракратычнай сістэмы. Асуджанае абслугоўваць ідэалогію і несці страшны цяжар гонкі ўзбраенняў, яно — на мяжы магчымага.

Усе спробы частковых рэформ — а іх было нямала — цярпелі няўдачу адна за адной. Краіна страчвала перспектыву. Так далей жыць было нельга. Трэба было кардынальна ўсё мяняць.

Вось чаму я ні разу не пашкадаваў, што не скарыстаў пасаду генеральнага сакратара толькі для таго, каб «пацарстваваць» некалькі гадоў. Лічыў бы гэта безадказным і амаральным.

Я разумеў, што пачынаць рэформы такога маштабу і ў такім грамадстве, як наша, — самая цяжкая і нават рызыкоўная справа. Але і сёння я перакананы ў гістарычнай праваце дэмакратычных рэформ, якія пачаты вясной 1985 года.

Працэс абнаўлення краіны і карэнных перамен у сусветным супольніцтве аказаўся куды больш складаным, чым можна было ўявіць. Аднак тое, што зроблена, павінна быць ацэнена па вартасці.

Грамадства атрымала свабоду, вызвалілася палітычна і духоўна. І гэта — самая галоўная заваёва, якую мы да канца яшчэ не ўсвядомілі, а таму, што яшчэ не навучыліся карыстацца свабодай.

Тым не менш праведзена работа гістарычнай значнасці:

— Ліквідавана таталітарная сістэма, якая пазбавіла краіну магчымасці даўно стаць шчаслівай і працвітаючай.

— Здзейснены прарыў на шляху дэмакратычных пераўтварэнняў. Рэальнымі сталі свабодныя выбары, свабода друку, рэлігійныя свабоды, прадстаўнічыя органы ўлады, многапартыйнасць. Правы чалавека прызнаны як вышэйшы прынцып.

— Пачаўся рух да многаўкладнай эканомікі, зацвярджаецца раўнапраўе ўсіх форм уласнасці. У рамках зямельнай рэформы стала адраджацца сялянства, з'явілася фермерства, мільёны гектараў зямлі аддаюцца сельскім жыхарам, гараджанам. Узаконена эканамічная свабода вытворцы, і пачалі набіраць сілу прадпрымальніцтва, акцыяніраванне, прыватызацыя.

— Паварочваючы эканоміку да рынку, важна помніць, што робіцца гэта дзеля чалавека. У гэты цяжкі час усё павінна быць зроблена для яго сацыяльнай абароны, асабліва гэта тычыцца старых і дзяцей.

Мы жывём у новым свеце:

— пакончана з «халоднай вайной», спынена гонка ўзбраенняў і вар'яцкая мілітарызацыя краіны, якая знявечыла нашу эканоміку, грамадскую думку і мараль. Знята пагроза сусветнай вайны.

Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што ў пераходны перыяд з майго боку было зроблена ўсё для захавання надзейнага кантролю над ядзернай зброяй.

— Мы адкрыліся свету, адмовіліся ад умяшання ў чужыя справы, ад выкарыстання войскаў за межамі краіны. І нам адказалі давер'ем, салідарнасцю і павагай.

— Мы сталі адной з галоўных апор па перабудове сучаснай цывілізацыі на мірных, дэмакратычных пачатках.

— Народы, нацыі атрымалі рэальную свабоду выбару шляху свайго самавызначэння. Пошукі дэмакратычнага рэфармавання многанацыянальнай дзяржавы вывелі нас да парогу заключэння новага Саюзнага дагавора.

Усе гэтыя змяненні запатрабавалі вялікага напружання, праходзілі ў вострай барацьбе, пры нарастаючым супраціўленні сіл старога, аджыўшага, рэакцыйнага — і ранейшых партыйна-дзяржаўных структур, і гаспадарчага апарату, ды і нашых звычак, ідэалагічных забабонаў, ураўняльнай і ўтрыманскай псіхалогіі. Яны натыкаліся на нашу нецярпімасць, нізкі ўзровень палітычнай культуры, боязь перамен.

Вось чаму мы страцілі многа часу. Старая сістэма рухнула да таго, як паспела запрацаваць новая. І крызіс грамадства яшчэ больш абвастрыўся.

Я ведаю аб незадаволенасці цяперашняй цяжкай сітуацыяй, аб вострай крытыцы ўлад на ўсіх узроўнях і асабіста маёй дзейнасці. Але яшчэ раз хацеў бы падкрэсліць: кардынальныя перамены ў такой вялікай краіне, ды яшчэ з такой спадчынай, не могуць прайсці лёгка, без цяжкасцей і ўзрушэнняў.

Жнівеньскі путч давёў агульны крызіс да крайняй мяжы. Самае згубнае ў гэтым крызісе — распад дзяржаўнасці. І сёння мяне трывожыць страта нашымі людзьмі грамадзянства вялікай краіны — вынікі могуць аказацца вельмі цяжкімі для ўсіх.

Жыццёва важным мне ўяўляецца захаваць дэмакратычныя заваёвы апошніх гадоў. Яны выпакутаваны ўсёй нашай гісторыяй, нашым трагічным вопытам. Ад іх нельга адмаўляцца ні пры якіх абставінах і ні пад якой маркай. У адваротным выпадку ўсе надзеі на лепшае будуць пахаваны.

Аб усім гэтым я гавару шчыра і адкрыта. Гэта мой маральны абавязак.

Сёння хачу выказаць удзячнасць усім грамадзянам, якія падтрымалі палітыку абнаўлення краіны, уключыліся ў ажыццяўленне дэмакратычных рэформ.

Я ўдзячны дзяржаўным, палітычным і грамадскім дзеячам, мільёнам людзей за мяжой — тым, хто зразумеў нашы задумы, падтрымаў іх, пайшоў нам насустрач, на шчырае супрацоўніцтва з намі.

Я пакідаю свой пост з трывогай. Але і з надзеяй, з верай у вас, у вашу мудрасць і сілу духу. Мы — наследнікі вялікай цывілізацыі, і цяпер ад усіх і кожнага залежыць, каб яна адрадзілася да новага сучаснага і годнага жыцця.

Хачу шчыра падзякаваць тым, хто ў гэтыя гады разам са мной стаяў за справядлівую і добрую справу. Напэўна нейкіх памылак можна было б пазбегнуць, многае зрабіць лепш. Але я ўпэўнены, што раней ці пазней нашы агульныя намаганні дадуць плён, нашы народы будуць жыць у працвітаючым і дэмакратычным грамадстве.

Жадаю ўсім вам усяго самага добрага.



## ПАСТАНОВА
### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
**Аб зацвярджэнні эталона Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і Палажэння аб Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **п а с т а н а ў л я е:**

1. Зацвердзіць эталон Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).
2. Зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

10 снежня 1991 г. г. Мінск.

## ПАСТАНОВА
### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
**Аб зацвярджэнні Палажэння аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **п а с т а н а ў л я е:**

Зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

11 снежня 1991 г. г. Мінск.

СВЯТЫ

## ТРЫНАЦЦАЦЬ ДЗЁН

Прыняты Закон Рэспублікі Беларусь аб святочных днях. Іх на працягу года ў нас будзе 13.

1 студзеня — Новы год;
7 студзеня — нараджэнне Хрыстова (праваслаўныя Каляды);
8 Сакавіка — Дзень жанчын;
Па календары праваслаўнай і каталіцкай канфесій — Вялікдзень (Пасха) — дзень першы;
Вялікдзень (Пасха) — дзень другі;
Па календары праваслаўнай канфесіі — Радаўніца;
1 Мая — Свята працы;
9 Мая — Дзень Перамогі;
27 ліпеня — Дзень незалежнасці;
2 лістапада — Дзень памяці;
25 снежня — нараджэнне Хрыстова (каталіцкія Каляды).

ПІКЕТЫ

## АДДАЙЦЕ ВІЛЬНЮ І ДЗВІНСК

Арганізацыя «Славянскі Сабор — Белая Русь» пікетавала будынак Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Збіраліся подпісы ў абарону славян Прыбалтыкі, выступалі за вяртанне Беларусі Віленскага і Дзвінскага краёў. Чорна-жоўта-белы флаг — знак адзінства вялікаросаў (чорны), украінцаў (жоўты), беларусаў (белы) развяваўся над натоўпам, які трымаў у руках выразныя плакаты: «Рускай мове — статус дзяржаўнай», «Іуды ў Крамлі — патрыёты ў турме».

БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

## ВУЧАЦЦА ВЫКЛАДЧЫКІ

Універсітэт беларускай мовы і гісторыі культуры створаны ў Беларускім тэхналагічным інстытуце. Яго мэта — дапамагчы педагогам у вывучэнні лексікі роднай мовы і больш падрабязна пазнаёміць іх з вытокамі нацыянальнай культуры.

Курс лекцый разлічаны на 396 гадзін. Пасля здачы экзаменаў слухачы атрымаюць дыпломы, якія даюць ім права выкладаць на беларускай мове. Пакуль заняткі наведваюць каля 30 выкладчыкаў тэхналагічнага інстытута.

ПРЭТЭНЗІІ

## НОВЫ ПАДЗЕЛ?

У Львове адбыўся Вялікі Сход палітычнай арганізацыі «Дзяржаўная самастойнасць Украіны», якая абвясціла сябе пераемніцай Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў.

Нацыяналісты станоўча ацанілі вынікі ўсеўкраінскага рэферэндуму, але ў катэгарычнай форме выказаліся супраць ідэі Садружнасці. ДСУ аб'явіла аб тым, што канчатковай мэтай яе з'яўляецца ўстанаўленне этнічных межаў Украіны, уключаючы частку Польшчы, Малдовы, Расіі і Беларусі, у межах якіх пераважнымі правамі павінны карыстацца ўкраінцы.

МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ

**«Студыйныя калядкі-91» — так называецца Міжнародны фестываль эксперыментальных тэатраў, які адбыўся нядаўна ў Мінску. У ім прымалі ўдзел акцёры тэатраў-студый кінаакцёра, «Дзе-Я», «Жэст» і калектывы з Літвы, РСФСР, Сандкорн-тэатр нямецкага горада Карлсруэ. Фестывальны тыдзень умясціў 30 спектакляў. Яны ішлі на трох сцэнічных пляцоўках: ТЮГа, Альтэрнатыўнага тэатра і тэатра-студыі кінаакцёра. Арганізатарамі «калядак» выступілі асацыяцыя тэатраў-студый і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.**

**НА ЗДЫМКУ: адкрыў фестываль спектакль драматурга Я. Кофта «Сялянская вайна» ў пастаноўцы тэатра-студыі «Дзе-Я».**



## НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# «ЖЫВІЦЕ БЕЗ МЯНЕ»

**Постаці нашага мінулага, якія сышлі ў нябыт у тыя часы, калі мы жылі «пад сонцам сталінскай канстытуцыі», усё больш цікавяць даследчыкаў. Цішка Гартны, Алесь Чарвякоў, Усевалад Ігнатоўскі, Антон Баліцкі... Толькі цяпер мы маем магчымасць даведацца пра іх, дзеячаў беларускага адраджэння, пра той страшны час, у які ім наканавана было жыць.**

**Адна з цікавейшых і прыкметных асоб — Язэп ЛЁСІК. Кандыдат гістарычных навук, журналіст Анатоль МЯСНІКОЎ рыхтуе да выдання кнігу пра трагічны лёс і час Язэпа Лёсіка. Рэдакцыя «Голасу Радзімы» прапануе ўвазе чытачоў два раздзелы з дакументальнай аповесці.**

### НА НІВЕ РОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

«Здань блукае па Еўропе, здань камунізму...» Так амаль 150 гадоў назад напісалі Маркс і Энгельс. Напісалі па-нямецку. А на беларускую мову гэтыя словы першым пераклаў... Язэп Лёсік.

Перакладчык, як і кожны літаратар, піша тое, у што свята і непахісна верыць... Так, прынамсі, павінна быць. І не думаю, што, перакладаючы «Маніфест Камуністычнай партыі», Лёсік верыў у што-небудзь іншае. І няма ў тым Лёсікавай віны, што сёння ўсе мы (ці, прынамсі, большасць з нас) успрымаем сэнс тых слоў зусім па-іншаму...

Яму было ўжо пад сорак — узрост сталы і мудры. Прайшлі, адышлі ў нябыт ілюзіі аб магчымасці дасягнення поўнай самастойнасці і незалежнасці роднай старонкі. Мінулі і надзеі з дапамогай немцаў і палякаў дамагчыся свабоды Бацькаўшчыны... Беларускі народ, зразумеў Лёсік, можа і павінен прыйсці да светлай будучыні толькі праз шлях самавызначэння. Праца ў галінах культуры, навукі і асветы на карысць дасягнення беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці і становіцца зместам і сэнсам усяго яго далейшага жыцця.

Узяўшыся найперш за даследаванне вытокаў нацыянальнай культуры, Язэп Юр'евіч прыходзіць да ісціны, што «як сьвядомасьць вызначаецца быцьцём, так культурны стан народу вызначаецца яго экономічна-грамадзянскімі ўзаемаадносінамі. Культура становіць адбітак народнага жыцьця і зьяўляецца продуктам разумовай творчасьці людзей на падставе іх матар'яльнага быту» (тут і далей правапіс самога Лёсіка. — **А. М.**). Артыкул «Культурны стан Беларусі к моманту Лютаўскае рэвалюцыі», апублікаваны ў 1924 годзе ў складзеным Алесем Сташэўскім, Зміцерам Жылуновічам і Усеваладам Ігнатоўскім зборніку «Беларусь», стаў не толькі першай грунтоўнай працай Лёсіка як вучонага, а і наогул з'явіўся адным з самых першых даследаванняў аб тагачаснай недалёкай мінуўшчыне нашага краю.

Аб культуры Беларусі Лёсік гаворыць толькі ў адносінах да яе сялянскіх мас. «Гісторыя Беларусі, — піша ён,—злажылася так, што яна стала краем сялянскім не толькі па свайму экономічнаму ладу, як край не прамысловы, а земляробскі; Беларусь стала краінай сялянскай і па свайму грамадзянскаму складу. Вышэйшыя экономічна-пануючыя буржуазныя станы Беларусі былі адарваны ад працоўных народных мас экономічна й **культурна** (падкрэслена Лёсікам, значыць, гэтай адарванасці ён справядліва надаваў выключна важнае значэнне. — **А. М.**) ...Сталася так, што беларусы к моманту Лютаўскае рэвалюцыі станавілі народнасць чыста сялянскую і па свайму нацыянальнаму твару. Беларуская культура, беларуская народнасьць, беларуская самабытнасьць захавалася толькі ў земляробскіх сялянскіх масах...»

Ён з асабістага жыццёвага вопыту ведаў, што па-беларуску гаварылі толькі працоўныя масы, «а камандныя, экономічна пануючыя станы — папольску або парасійску».

Лёсік сцвярджаў, што такое становішча пачалося яшчэ з XVI стагоддзя, калі «Беларускае баярства, а за імі іншыя прывілейныя станы, адарваныя ад працоўных гушч социяльна, сталі пераймаць чужую, галоўным чынам, польскую мову і польскую культуру. Гэта скончылася тым, што беларуская мова, як адзіны фактар разумовай творчасьці народу, была пастаўлена на ступень простай, хамскай, мужычай, няздатнай да культурнага разьвіцьця разам з тымі працоўнымі, социяльна прыгнечанымі масамі, што ў гэтай мове гаварылі». Гэтая абасобленасць, зазначае аўтар, і стала прычынай таго, што да пачатку дваццатага стагоддзя аб беларускай інтэлігенцыі не магло быць і гутаркі: «Цэлыя сталецьці беларускія народныя масы жылі без сваёй інтэлігенцыі, а гэта не магло, разумеецца, дапамагаць азнаямленьню іх з разумовым жыцьцём, з разумовай творчасьцю свайго веку й часу. Нарэшце сталася так, што ўжо незалежна ад таго, да якое клясы грамадзянства належыў асьвечаны беларус-інтэлігент, прайшоўшы вышэйшую ці сярэднюю школу,— ён нараўне з апалячаным ці абруселым дваранінам выракаўся свайго народу і яго мовы ды гінуў для свайго краю».

Артыкул «Культурны стан Беларусі к моманту Лютаўскае рэвалюцыі» складаецца з некалькіх частак: «Грамадзянскі склад Беларусі», «Быт, права, звычаі», «Асьвета», «Цэркаў і рэлігія», «Навука й мастацтва». Самы вялікі з раздзелаў — «Быт, права, звычаі», у якім Лёсік разглядае формы сялянскага землекарыстання на Беларусі, уклад жыцця вяскоўца наогул. Ён падрабязна разглядае сям'ю як «асноўную форму працоўнай адзінкі на зямлі», і з пункту гледжання сённяшняй нашай рэчаіснасці гэта тэма мае надзённае гучанне. І хоць тэматычна гэты раздзел мае да артыкула вельмі прыблізныя адносіны, здзіўляе іншае: веданне Язэпам жыцця, яго рэалій.

У раздзеле «Асьвета» Лёсік пераканаўча паказвае, як «расійскі ўрад... гасіў асьвету на Беларусі». Так, пры Мікалаі І мясцовыя школы масава зачыняліся, іх замянялі школамі расійскімі. «У 1834 годзе, — прыводзіць ён довад, — число вучылішч на Беларусі было зьменшана на палавіну». Аднак адкрыццё расійскіх школ, асабліва пасля падзей 1861 года, народ сустрэў «няпрыхільна». Бацькі баяліся, што іх дзяцей «пераробяць на маскалёў». Расійская школа была чужая, селянін баяўся яе. Бацькі ахвотней наймалі настаўнікаў «ды вучылі дзяцей па хатах»...

Са спасылкай на Доўнар-Запольскага Лёсік прыводзіць лічбы: на 1 студзеня 1900 года ў Беларусі налічвалася 8 266 школ; адна школа прыходзілася на 885 чалавек. «Усе школы без выключэння былі расійскія — з выкладовай расійскай мовай; беларускіх школ — з выкладовай беларускай мовай — ня было зусім, бо і сама беларуская мова была забаронена», — пісаў даследчык.

Не мог, натуральна, абысці маўчаннем аўтар і тэму беларускага адраджэння.

«...Ідэя нацыянальнага адраджэння, — сцвярджае ён, — парадзілася... яшчэ ў пачатку XIX сталецця, у рэзультаце таго навуковага руху, што распачаўся быў пры Віленскім універсітэце, але гэта была толькі ідэя — прычым, кволая і зусім нявыразная. Сапраўдны беларускі рэнесанс распачаўся толькі напярэдадні Лютаўскае рэвалюцыі 1917 году і стаў навочнай рэальнасьцю пасьля перавароту ў кастрычніку...»

Такім чынам, не прызнаючы доўгі час Кастрычніцкую рэвалюцыю, яе вынікі, у прыватнасці, Язэп Лёсік пагаджаецца, што яна паклала ўсё ж пачатак беларускаму нацыянальнаму адраджэнню. І гэта, несумненна, адметны факт у няпростай і супярэчлівай яго біяграфіі.

Артыкул у цэлым, кожны яго раздзел сведчаць: аўтар гарыць вялікім і сапраўдным жаданнем пазнаць і паказаць іншым гісторыю свайго народа. Эрудзіраваны і начытаны чалавек, Лёсік ужо гэтай працай паказаў сябе як сумленны і шчыры даследчык, глыбока заклапочаны будучыняй роднага краю.

Падахвочаны яшчэ раней Алесем Гаруном, а цяпер — Цішкам Гартным, Максімам Гарэцкім і іншымі пісьменнікамі, Язэп Лёсік бярэцца і за літаратурную дзейнасць. Яго апавесці і апавяданні, найперш такія, як «Ня ўсе-ж разам, ягамосьці», «Гаронім у дарозе», «Апавяданне бяз назвы», казка «Геркулес і селянін», вызначаюцца сакавітай народнай мовай, глыбокім пранікненнем у сутнасць з'яў, дасканалай характарыстыкай герояў... Максім Гарэцкі першым прыкмеціў пісьменніцкі талент Лёсіка. «Гэтага слаўнага пісьменніка чакае яшчэ слаўнейшая будучыня», — сведчыў ён. Але... Ужо ў 1924 годзе Цішка Гартны зазначыў іншае: «Язэп Лёсік, вызначыўшыся як здольны белетрыст («Ня ўсе-ж разам, ягамосьці» і інш.), абяцаў многае, але пасьля закінуў пісаньне мастацкіх рэчаў, а перадаўся на публіцыстычна-пэдагогічную працу...» Пры гэтым, між іншым, Гартны высока ацаніў мастацкія вартасці перакладу «Маніфеста Камуністычнай партыі».

Педагагічную дзейнасць пры Савецкай уладзе ён пачаў яшчэ раней, чым літаратурную і даследчыцкую. Ужо ў 1921 годзе, літаральна адразу пасля адкрыцця Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Лёсік выкладае там беларускую мову.

Аб'ява аб пачатку прыёму заяў у БДУ ўбачыла свет у маі 1921 года. 8 ліпеня калегія народнага Камісарыята асветы Беларусі (а ўзначальваў яе, дарэчы, Усевалад Ігнатоўскі) прызначыла праўленне універсітэта. Першым рэктарам яго стаў вядомы ўжо тады гісторык Уладзімір Пічэта.

Асоба выдатных здольнасцей, высокіх маральных і чалавечых прынцыпаў, Уладзімір Іванавіч не мог заставацца абыякавым і да падбору кадраў педагогаў. Вялікую працавітасць і ўменне распараджацца часам ён дэманстраваў сваім калегам асабіста. Займаючы пасаду рэктара 9 гадоў, Пічэта не толькі стварыў за гэты час фундаментальныя працы па гісторыі Беларусі (а іх ва Уладзіміра Іванавіча звыш 140), але і напісаў глыбокае і вельмі патрэбнае тады даследаванне «Беларуская мова як фактар нацыянальнай культуры». Яна прынесла яму заслужаны поспех. І гэта, адзначу, пры тым, што мовазнаўцам рэктар універсітэта ніколі сябе не лічыў.

На першы факультэт БДУ — рабфак было прынята неўзабаве 160 чалавек. Вось што пісаў аб гэтай падзеі ў часопісе «Чырвоны студэнт», што выдаваўся з 1922 года, Д. Трубач: «Яшчэ ўчора мы адарваліся ад станкоў, выйшлі з сажы і дыму фабрык і заводаў, нашы бледныя твары пакрыты гэтым кудымам, рукі яшчэ носяць цвёрдыя мазалі... Яшчэ ўчора мы пакінулі плуг, палі, глухую забітую вёску. А сёння мы ў светлым храме навукі, ля скарбніц розуму чалавека».

**(Працяг будзе).**



## АД ДЗІЦЯЧАЙ ЦАЦКІ ДА ПЕРСАНАЛЬНАГА КАМП'ЮТЭРА

**Сёння гандлёвая фірма «БЕЛВАР» — так цяпер называецца Вытворчае аб'яднанне імя Леніна — рыхтуе да серыйнага выпуску не адну назву тавараў: ад дзіцячай цацкі да персанальнага камп'ютэра. Сярод новых распрацовак спецыяльнага канструктарскага бюро — пажарабяспечныя, з электроннай аховай электрапрас і кіпяцільнік, міксер «Віхар», дазіметр і многае іншае. Па заяўцы Міністэрства аховы здароўя рэспублікі і Камітэта па Чарнобылю ў СКБ падрыхтаваны да вытворчасці радыёметр РКГ-07П. Гэта стацыянарны прыбор для лабараторнага вымярэння ўтрымання стронцыю, цэзію і калію ў прадуктах харчавання.**

**Вельмі карысным у хатняй гаспадарцы будзе і набор «Майстар», у склад якога ўваходзіць электрадрэль з вялікай колькасцю насадак, што дазваляюць выконваць разнастайныя работы па дрэву і металу.**

**Сёлета фірма мае намер выпускаць гэтых вырабаў больш за дзве трэція ад агульнага аб'ёму таварнай прадукцыі. У планах прадпрыемства — пыласосы, мікрахвалевыя печы, аўтаэлектроніка, медтэхніка і іншыя тавары народнага спажывання.**




**НА ЗДЫМКАХ: галоўны канструктар распрацоўкі Анатоль АЛЯКСАНДРАЎ прадстаўляе набор «Майстар»; прыбор для вымярэння актыўнасці нітратаў «ПІАН-01» і дазіметр «РКСБ-104» — таксама навінкі фірмы «БЕЛВАР».**

Фота Ю. ПАЎЛАВА.




233

Запраўды, што такое быў ён, Пётра Тугоўскі? Для чаго ж радзіўся ён? Ува імя чаго прыйшоў ён у гэты сьвет? Ува імя якой-небудзь мэты ці проста так сабе, як непатрэбная сорная трава на полі? Ува ўсякім выпадку ён не прыйшоў у сьвет, як іншыя: думаць аб сваей гаспадарцы і аб сваіх агародах. Яму брыдкае гэтае людское імкненьне разбагацець — накупіць болей зямлі, пабудаваць больш дамоў, на вокнах паставіць гэрані, павесіць клеткі з канарэйкамі і шчасьліваму, сытаму, хадзіць па пакоях і слухаць прыбой людскога гора, можа быць, паплакаць, можа быць, кагосьці пажалець, камусьці працягнуць руку дапамогі. Ён усімі нэрвамі сваей душы ненавідзеў гэтых сытых і задаволеных людзей, якімі-бы здольнасьцямі яны ні блішчэлі, й называў іх мяшчанамі.

Мяшчане — гэта самы брыдкі від чалавека, зусім нагадываючы, што чалавек недалёка адышоў ад жывёлы. Тугоўскі не радзіўся для таго, каб хваліць гэты сьвет толькі таму, што ў яго быў белы хлеб. Ён не крычаў-бы так, як крычаў гэты мешчанін у Харкаве падчас улады дабравольчаскай арміі, калі па вуліцах вялі на расстрэл сотні людзей, не крычаў-бы толькі таму, што ў яго зьявіўся кавалак булкі. Тугоўскі ня ведаў, што такое уласнасьць, ніколі не імкнуўся да яе. Бацька яго ня мог пакінуць яму ні пакоя, ні якой-небудзь мэблі, ні якога-небудзь кавалачка агарода. Нічога не было ў жыцьці ў Тугоўскага. Ён быў вольны, абсалютна вольны, па-эвангельскі, як птушка нябесная. І галоўнае, што ў яго не было ніякога жаданьня завясьці сабе ўласны дом, шыкарную мэбэль, добры аўтамабіль. Ён ненавідзеў усіх, хто думаў аб гэтым, асабліва тых, хто сам, заводзячы ўласныя дамы й мэбэль, лічыў сябе пры гэтым рэвалю-

234

цыянерам і сацыялістам.

Словам, Тугоўскі быў, з пункту гледжаньня большасці людзей, дзівак, абсалютны нуль у практычным адношаньні. Самая простая баба на рынку магла яго засьмяяць і абдурыць.

Так, не для гаспадаркі прыйшоў у гэты сьвет Тугоўскі. Ён быў "лішні чалавек", так, ён быў "лішні", нікому не патрэбны, ні для каго не цікавы, ні для гэтага сьвету створаны чалавек. Яго цягнула ў "вышэйшыя сьферы", хапаць зоры з неба, але, на жаль, ён не радзіўся ў сям'і барона, яму як на злосьць прыйшлося штодня змагацца з чорным практычным жыцьцём, самому рабіцца практычным й вечна думаць аб кавалку хлеба. У гэтым было яго няшчасьце. Ён бачыў, што дзеля яго непрактычнасьці яму нічога не ўдаецца. Справа якая-небудзь, за якую ён браўся, гінула праз нейкі час праз яго кіраваньне. Адсюль ён стварыў тэорыю, што яму нічога не ўдаецца, і на падставе гэтага ён паверыў астральнаму чалавеку, што радзіўся пад плянэтай, прыносячай няшчасьці, пад Сатурнам.

А калі гэта ўсё так, дык што рабіць яму? Усе лішнія людзі канчалі жыцьцё самагубствам або шукалі якога-небудзь сэнсу жыцьця. Знаманіты літэратурны бацька лішніх людзей Рудзін Тургенева, напрыклад, памёр нарэшце ўва Францыі на барыкадах. І чаму ж нарэшце не пайсьці яму, Тугоўскаму, лішняму чалавеку, не знайшоўшаму нідзе ўласнага шчасьця, не аддаць свайго жыцьця для шчасьця іншых, для агульнага шчасьця пакрыўджаных, абражаных і галодных мас. Што было ў яго жыцьці такога, чым ён мог яшчэ даражыць? Сваё гняздо, дзе было-б цёпла і міла, куды-б ляцелі адусюль успаміны? Дык ён яго ня

235

меў з дзяцінства. Багацьце заслужанае, імя, слава — назовы, аб якіх ён ня меў ніякага паняцьця.

Можа быць, ласкі жанчын? Можа быць, яны маглі яшчэ даць яму ў жыцьці насалоды і радасьці? Ах, гэтыя ласкі... Колькі ён імкнуўся да іх, як прагавіта адчыняў свае вусны, але кожны раз дарэмна! Адзін раз, толькі некалькі дзён назад, ён пакаштаваў гэты салодкі напітак ласкі, і вось які горкім ён аказаўся! Словам, нічога ў яго жыцьці не было такога, чаго ён мог чакаць, чым даражыць. І можа быць таму ён павінен, па Эвангельлі, пастаяць "за другі свая"? Можа быць у гэтым і ёсьць той сэнс, ува імя якога прыйшоў ён у гэты сьвет? Можа быць таму ён і створаны лішнім чалавекам, каб, ня маючы пры сабе ні агароду, ні хаты, ні канарэйкі, з вольным сэрцам і з сьветлымі думкамі мог пайсьці на сьмерць за тых, у каторых, як і ў яго, таксама няма ні агароду, ні свайго мейсца на сьвеце. Можа быць тыя людзі, якія памерлі дзеля рэвалюцыі, былі таксама лішнімі?.. Можа быць у тых людзей быў адзін прынцып, адно жаданьне — увайсьці ў жыцьцё, той самы ідэал, каторы абвясьціў ён, Тугоўскі, у сваей прамове на акце ў беларускай гімназіі.

Успаміны палезьлі ў галаву. Успаміналася далёкая Бацькаўшчына, зялёны стол у паркетнай зале, залітыя сьветам твары педагогаў і вучняў, музыка і бадзёрыя прамовы. Усё цяпер улівала яму сілы, усё давала яму веру ў тое, што нарэшце яго жыцьцё атрымае сэнс, ён здабудзе тое, аб чым з запалам зазначаў перад пэдагогамі і вучнямі...

На мурах Вышэграду сьцямнела. Трэба было вярнуцца дахаты. Тугоўскі йшоў, чуючы, што на яго грудзёх гарэлі чырвоныя й ружовыя плямы. Што будзе з ім, сыфілітычным? Але ён ужо не

236

баяўся: ён бачыў, што выхад знойдзены. У Празе ён быў ахоплены шумным жыцьцём, разьбіўшым яго пэўнасьці...

На момант яго зачапіла думка: ці хопіць у яго сілы: ён жа радзіўся пад Сатурнам? Будзе тое, што ён загубе ўсю арганізацыю... Але праз хвіліну ён рашыў, што як-бы там ні было, загіне ён сам, а не арганізацыя...

Ува ўсякім выпадку, што-б ні здарылася, які-бы адказ ня даў доктар, праз некалькі дзён ён зазнача Карусю, што згодзен уступіць у яго арганізацыю.

## ЭПІЛОГ

### І

Белым сьнегам пакрылася вуліца залатой Прагі. Вулічныя ліхтары матавым бляскам разьлівалі свой сьвет й здаваліся толькі сьветлымі плямамі ў кругу, заслаўшым усё неба. Адзінокія людзі стараліся хутчэй праляцець па вуліцах і зьнікнуць у спакойных мурах будынкаў. У гэты час на рагу вуліцы каля Народнага дому спыніліся два чалавекі: адзін быў вельмі высокі, й голас яго гучэў раскатамі грома, другі больш нізкі й спакойны, больш слухаўшый, чым гутарыўшый.

— Знача, браце Тугоўскі, — зазначыў раскацісты голас, — заўтра спаткаемся на станцыі? Ты заедзеш ў Падкарпацкую Русь, а там праз Карпаты і праз граніцу мы ўжо ўмовіліся... Рашано?

— Так, цьвёрда й беспаваротна, Карусь. — І больш пацiскаў руку меншаму. Яны ўвайшлі, вясёла размаўляючы зусім не аб сваей паездцы, у асьветлены Народны дом. Народны дом быў поўны народу. Па ўсіх залях чуліся самыя розныя

237

мовы, й самыя стракатыя вопраткі эмігрантаў спатыкала вока. Сяньня ў Народным доме павінна была адбыцца лекцыя расейскага прафэсара Мілюкова — па нацыянальнаму пытаньню ў Расеі, а пасьля яе павінны былі пачацца дыскусіі. Па тых настроях, якія чуліся ў гуляўшай па залі таўпе, можна было чакаць, што дыскусіі будуць вельмі цікавыя.

У таўпе бачылася нямала беларусаў. Старшыня Рады БНР Крэчэўскі насіўся па залі, патрасаючы сваей біблейскай барадой. Міністры Заяц і Случанін з жонкай расьцеранна агляндваліся па баках і сарамліва ўсьміхаліся знаёмым. Вярхоўская гуляла ў таўпе камсамольцаў, але вочы яе шукалі Тугоўскага. З таго часу, як іх вусны зьбліізіліся на пляжы каля "Цэсарскай лоўкі", яна мімаволі цягнулася да яго й думала аб ім. Тугоўскі ўвайшоў у залю і спакойна акідываў паглядам прысутных. Яго вочы гарэлі, але ў іх не было трывогі. Нарэшце ён пабачыў Вярхоўскую.

— Пойдзем на гару, на балкон, — прамовіў ён, прывітаўшысь з ёй. — Там будзе лепш відаць.

Яны прайшлі па засланай шырокім каберцам драбіне на балкон і селі ў лёжу над самай сцэнай. Тугоўскі глядзеў на яе з зацікаўленьнем, чуючы, што глядзіць на яе ў апошні раз. Ён быў спакойны. Доктар сказаў, што ў яго ніякай хваробы няма, і, знача, ён ня мог заразіць Вярхоўскую. Уся дарэмная трывога прайшла.

Але нягледзячы на тое, ён, й здаровы, уступіў у тайную арганізацыю Каруся й заўтра адпраўляўся ў дарогу.

— Вы даўно ўжо не паказваліся ў Студэнцкім доме. Зноў з вамі якая-небудзь гісторыя? — засьмяялася яна, акідаючы яго сваімі прыгожымі ва-

238

чыма.

— Вы правы, гісторыя, — неахвотна зазначыў Тугоўскі й пачаў глядзець на сцэну. Якраз у гэты момант зазьвінеў званок і старшыня папрасіў усіх заняць свае мейсца. Прафэсар Мілюкоў сеў за столікам каля кафэдры.

— Слова мае былы старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Крэчэўскі.

Старык Крэчэўскі скаҥфужана ўзьлез на сцэну й, відзіма хвалюючыся, што атрымаў слова першым, пачаў:

— Буду гутарыць менш за ўсіх, таму што паважаны дакладчык менш усяго гутарыў аб беларусах. На працягу сваей гісторыі мы чулі на сабе цяжкую руку Масквы, зьнішчыўшую нашу культуру. А між тым гэта культура была ў той час, як Масква была вёскай, і ў Полацку ўжо была гімназія, й з Полацку адпраўляліся маладыя людзі вучыцца за граніцу. Масква зьнішчыла ўсё, у 1885 годзе было забаронена друкаваць беларускія кнігі...

Крэчэўскі адным вокам усё паглядываў на Мілюкова, быццам баяўся, што той зараз выступіць з апраўяржэньнем прыведзеных ім фактаў. Але Мілюкоў толькі спакойна запісываў усё ў сваю кніжку.

— Мы заяўляем, — закончыў Крэчэўскі, — што пакуль ёсьць раб і пан, размовы супольнай і супрацоўніцтва быць ня можа.

І ён пакінуў сцэну пад гром воплескаў. За

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 50, 52.

239

Крэчэўскім выступіў прадстаўнік каўказскіх горцаў. Высокі, у сваей чэркесцы, з кінжаламі, сваей прамовай ён зрабіў велізарнае ўражаньне на прысутных.

— Мы, каўказскія горцы, заяўляем, што Расея нішчыла цэлыя плямёны горцаў. Грамадзяне, — ён стукнуў пальцамі па нейкай паперцы, — я вам пакажу карту, дзе вы пабачыце, што зараз няма шмат назоў нашых плямён. Дзе яны? Яны зьнішчаны расейскай уладай з твару зямлі. Але, грамадзяне, у нашых сэрцах яшчэ жывуць запаведзі вялікага Шаміля, іншых нашых правадыроў. Мы вымагаем, каб нам далі магчымасьць збудаваць сваю саклю на скале, няхай недасканальную, але каб гэта была наша ўласная сакля.

За прадстаўніком каўказскіх горцаў выступіў прадстаўнік Грузіі:

— Мы ніякая не Расея, ні Жоўтая Расея, ні Маларасея... Мы — Грузія, — казаў ён. — У нас была высокая культура, нашыя грузінскія цары пасылалі сваіх жыхароў вучыцца за граніцу, калі Масква была цёмнай вёскай. Што сталася цяпер з Грузіяй пасьля доўгага панаваньня Расеі?.. — Грузін намаляваў жахлівы малюнак... — Пасьля гэтага, я думаю, — закончыў ён, — у нас ня будзе ніякага жаданьня яшчэ раз увайсьці ў склад Расеі.

За грузінам пачалі свой арганізаваны паход украінскія прафэсары. Адзін з іх, выдатны гісторык у залатых акулярах, пачаў даўгую лекцыю аб тым, як разьвівалася ўкраінцаў нацыянальная сьвядомасьць, і потым закончыў:

— І пасьля гэтага паважаны дакладчык мае яшчэ сьмеласьць заявіць, што ўвесь украінскі рух пачаўся на нямецкія грошы.

— Правільна, — закрычалі з усіх бакоў расейцы.

240

— Ганьба, — не стрывалі ўкраінцы й ускочылі са сваіх месц.

У залі падняўся перапалох. Адна хвіліна — і ўсё магло скончыцца агульнай бойкай. Але дзякуючы прысутнасьці духу старшыні, усё скончылася добра. Дыскусіі маглі прадоўжывацца.

Зноў выступілі ўкраінцы і грузіны. Усе аднадушна выступалі проціў улады Расеі з заяўлялі аб тым, што жадаюць незалежнасьці.

Нарэшце слова атрымаў сам дакладчык Мілюкоў. Ён падняўся страшэнна сканфужаны й некалькі хвілін ня ведаў, што яму казаць. Ён пачаў з дыскусіі аб дэмакратыі з некаторымі прамоўцамі, а потым зазначыў:

— Тое, што мы чулі сягоньня тут, безумоўна вельмі нас зьдзівіла. Ну што ж, грамадзяне, з тым і разойдземся. Але думаю, што ўсё ж ткі вы без Расеі не абыдзецеся.

Усе пачалі расходзіцца. Крэчэўскі выйшаў, вітаемы ўсімі беларусамі і знаёмымі эмігрантамі. Міністры Заяц і Случанін чулі сябе больш пэўна й рухліва аб чымсьці гутарылі з украінцамі. Тугоўскі правёў Вярхоўскую праз таўпу і выйшаў з ёй з багатага й пышнага Народнага дому на вуліцу.

— Дазвольце вас падтрымаць, — прамовіў Тугоўскі, нахіляючыся да яе.

— Калі ласка, — прамовіла яна й падала яму сваю руку. Яны пайшлі не сьпяшаючыся, адны па цёмных вуліцах.

— Ну як вам падабаецца сяньняшні мітынг? — спытаў Тугоўскі.

— Мне? — вельмі радасна прамовіла яна. — Гэта было нешта надзвычайна прыгожае па сваей аднадумнасьці. Падумаць, 23 аратары, усе, як адзін чалавек, заявілі: ня хочам больш Расеі.

ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА

# НАТХНЯЮЦЬ ВОБРАЗЫ РАДЗІМЫ

## НАТАТКІ ПРА ТВОРЧАСЦЬ МАСТАЧАК, НАШЫХ СУАЙЧЫННІЦ З ЗША

Тады кожная кампанія, улічыўшы гэта, выпускае матэрыялы, тканіну. У нас так: калі папулярныя ружы на 1992 год, то мастакі будуць больш маляваць узоры з ружамі. Такія законы камерцыі. І яшчэ важная заўвага: у Амерыцы існуюць стандарты на памеры падушак, абрусы, коўдры, лыжкі, відэльцы—на ўсе абсалютна рэчы. Ці так на Беларусі? Таму, хто хоча мець з амерыканскімі фірмамі справу, трэба заўсёды гэта браць пад увагу. Бо еўрапейскія размеры зусім іншыя. А што датычыцца вырабаў са шкла, якія бачыла ў альбоме, то некаторыя сервізы на віно, шклянкі і флакон, дзе спалучаны сіні з белым колеры, на мой погляд, упадабае амерыканец. Як і тое, дзе колер пераходзіць з жоўтага на чырвоны. Менавіта ў такім каларыце выраблялася ранняе амерыканскае каланійнае шкло. Таму я бы раіла тым, хто хоча сур'ёзна заняцца гандлем з Амерыкай, пачытаць кнігі пра амерыканскае мастацтва, пра сучасную вытворчасць прадметаў побыту. Ну і, канешне, якасць. Гэта ёсць найпершы паказчык канкурэнтаздольнасці тавараў у Амерыцы.

На мой погляд, Тамара Стагановіч мае рацыю, калі дае такія сяброўскія парады. Бо ў яе вялікі вопыт у гэтай сферы. З 1955 года яна пачала ўдзельнічаць у персанальных і групавых выстаўках. І на яе рахунку ўдзел больш чым у 100 выставах. З'яўляецца аўтарам і афарміцелем кніжак, піша маслам, вядомая як выдатны графік, працуе ў розных тэхніках, імя яе значыцца ў даведніках па амерыканскаму мастацтву. І ў тых даведніках пасля яе прозвішча паўсюль указана: беларуска, нарадзілася ў Навагрудку.

Як жа наша зямлячка стала вядомым у Амерыцы мастаком? Як здолела завяваць сабе месца пад сонцам у жорсткай канкурэнцыі, з'яўляючыся яшчэ і эмігранткай у гэтай краіне? Ці, можа, ёй проста пашчасціла?

Па словах Тамары Стагановіч, калі яна з бацькамі з Нямеччыны прыехала ў Амерыку, то мусіла «дастаць сабе стыпендыю», бо тут за навуку трэба самому плаціць. А новым эмігрантам было надзвычай цяжка гэта зрабіць. (Дарэчы, бацька не хацеў ехаць у Амерыку з Еўропы, казаў, што адсюль ён пешкі зможа дайсці да Беларусі).

— Я добра вучылася, скончыла бакалаўра за тры гады,—кажа спадарыня Тамара, — але мне здалося, што я мала спазнала мастацтва. І пайшла яшчэ ў Калюмбійскі універсітэт на магістра.

Тамара лічыць, што цягу да мастацтва яна мае ад маці, якая заўсёды добра малявала, вышывала торбы, з якімі дзеці хадзілі ў школу, дапамагала малым рабіць лялькі. (І ў свае 92 гады маці яшчэ вышывае). А ад бацькі, які быў палітыкам, у яе—зацятасць, строгасць, лагічнасць мыслення.

Працяг. Пачатак у № 52.



Спадарыня Надзея КУДАСАВА.

Нечаканымі для мяне былі словы мастачкі аб тым, што яна доўгі час не магла і не хацела маляваць людзей. Такое, як яна тлумачыць, адбылося з яе псіхікай у ваенныя гады, калі давялося пабачыць усякіх зверстваў і здзекаў, людскіх пакут. Дзяўчына з траўміраванай псіхікай згубіла веру ў людзей.

Пералом адбыўся праз многа гадоў, у час правядзення аднаго з фальклорных фестываляў. Тамара, як заўсёды, рыхтавала для нашых удзельнікаў беларускія касцюмы. Жанчыны апранулі іх і хадзілі паважна ў строях. Відовішча было надзвычай прыгожае, яно моцна ўразіла мастачку. Пасля гэтага яна ўпершыню намалявала тры жаночыя фігуркі. Тая работа вельмі дарагая для Тамары Стагановіч, дэманструецца на выставе ў Ратгерс-універсітэце. Акрамя яе, мастачка прадставіла тут сваю вядомую карціну «Індзейская рэзервацыя» і трыпціх «Вера, Любоў і Надзея». Апошняя работа спалучае ў сабе вобразы беларускіх жанчын, ікону Божай маці і выяву скульптуры Свабоды. Вось як трактуе гэты твор сама мастачка:

— Карціну я пісала для выставы ў Нью-Йорку. Тэма выставы была такая: што азначае свабода для нас, жыхароў Амерыкі, эмігрантаў з другой краіны. У Амерыцы ёсць магчымасць захоўваць свае традыцыі і развіваць іх. Такім чынам, свабода—гэта магчымасць. Таму на трыпціху вы бачыце жанчын у намітках як сімвал захавання беларусамі свайго нацыянальнага аблічча. Тут нездарма кажуць: «Трымайся свайго». Бо інакш згубішся ў гэтым катле інтэрнацыянальным. І мы трымаемся. Але ўсё ж цяжка быць мастаку на чужыне...

Не ўсім так пашанцавала на чужыне, як, скажам, Тамары Стагановіч ці Галіне Русак. (Хаця кожнай з іх асабіста давялося прыкласці нямала намаганняў, каб выбіцца ў людзі і здзейсніць сваю мару).

Спадарыня Надзея Кудасава апынулася ў Нямеччыне без бацькоў, з сям'ёй старэйшага брата Міхася, які меў на той час шасцёра дзяцей. Страшна бедавалі.

— Немцы кепска ставіліся да беларусаў. Жылі мы ў халодным брудным пакоі 30 чалавек,—з болем прыгадвае яна далёкае юнацтва, — а братавыя ж усе малыя, ані галля ніякага нават не набярэш, каб распаліць печ. Сядзелі, ляскалі зубамі. Галінка, малодшанькая братава, што нарадзілася ў 1944 годзе, захварэла: жывот распух, уся пакрылася коркай. Ужо і кашульку ёй падрыхтавалі, бо не маглі даць рады. А тут амерыканцы прыйшлі. Чырвоны Крыж выдаў і ежу, і адзенне...

Пасля вайны Надзю, як сірату, хацела забраць каталіцкая арганізацыя. Але брат не аддаў дзяўчынку, падпісаў дакументы, што будзе апекавацца ёю, клапаціцца, як пра сваё дзіця.

Вядома ж, без бацькоў было нясоладка і ў багатай Амерыцы. Нават і думаць пра вучобу Надзя не магла, бо мусіла зарабляць на жыццё, хацела быць самастойнай, не залежаць ні ад кога. «Я лепш дзесяць разоў дам, чым буду прасіць» — гэта, бадай што, асноўны жыццёвы прынцып Кудасавай.

Пра душэўную шчодрасць, дабрыню, спагадлівасць, самаахвярнасць гэтай жанчыны мне даводзілася неаднойчы чуць ад землякоў. «Тумаш, Кіпелі, Запруднік ёсць мозг беларускай эміграцыі ў Амерыцы,—казалі нават так,—а Кудасава, Шукелойць—яе душа». Дакладней, мабыць, не скажаш. Хаця прафесія ў Надзеі Кудасавай даволі празаічная, яна працуе лабаранткай у Rutgers medical school, але душу мае чуллівую, узвышаную, паэтычную. Спявае, малюе, майструе, вышывае. (Талентам, як кажуць, Бог не абдзяліў). Беларускасць жа для яе—адзіны спосаб існавання. Работа лабаранткі, мусіць, з-за неабходнасці, а вось творчасць, якая, між іншым, не прыносіць ніякіх даходаў, а толькі патрабуе выдаткаў, займае цэнтральнае месца ў жыцці, дае магчымасць існаваць духоўна.

На выставе ў Ратгерс-універсітэце Надзея Кудасава паказала толькі адну сваю карціну «Лянок». Бясконцае поле блакітнага лёну як вобраз далёкага дзяцінства і Радзімы. Немудрагелістая гэта, на першы погляд, работа, тым не менш мае таямнічую прыцягальнасць, струменіць святло і цеплыню. Пранізлівае пачуццё любові, з якім аўтар пісала свой «Лянок» і якім напоена палатно, перадаецца і гледачу.

Такая самая экспрэсіўнасць, пачуццёвасць характэрная і для жывапісу Ірэны Рагалевіч-Дутко.

Таццяна АНТОНАВА.



Спадарыня Ірэна РАГАЛЕВІЧ-ДУТКО з мужам і дачкой.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

*БІБЛІЯТЭКА-ПРЫВІД*

# ТАЙНЫ ВЫКАНКОМАЎСКІХ ПАДВАЛАЎ

З незапамятных часоў у райцэнтры Клімавічы, на Магілёўшчыне, жыве легенда аб тым, што падвалы будынка, дзе размешчаны тутэйшы выканком, утойваюць у сабе незлічоны скарб. Прычым найбольш «дасведчаныя» звязваюць існаванне скарбу з тымі далёкімі часамі, калі на гэтым месцы стаяў Дамініканскі манастыр. Але ці такія ўжо далёкія чуткі ад ісціны?

12 сакавіка 1925 года ў газеце «Звязда» быў апублікаваны артыкул вядомага беларускага пісьменніка і вучонага Максіма Гарэцкага «Бібліятэка пад зямлёй». У ёй гаварылася, што ў час рамонту ў 1898 годзе клімавіцкай турмы, на месцы якой некалі знаходзіўся манастыр, былі знойдзены кнігі.

Існуе і больш ранняе ўпамінанне аб падземным кнігасховішчы. У кнізе выкладчыка мясцовай мужчынскай гімназіі Ярослаўцава «Горад Клімавічы», што выйшла ў свет у 1914 годзе, аўтар піша:

«У час рамонту пад падлогай адной з камер ніжняга паверха ўтварыўся правал. Наглядчыкі зазірнулі ў гэты правал і ўбачылі там прасторны пакой. Каля сцен стаялі вялікія дубовыя шафы і паліцы, застаўленыя тоўстымі кнігамі. Начальнік турмы Марцінкоўскі адаслаў наглядчыкаў, зачыніў камеры і адправіўся з дакладам да спраўніка, які аддаў распараджэнне тэрмінова засыпаць пяском і заліць цэментам падзямелле, якое ўтварылася, пры гэтым нічога ў ім не кранаючы. Зацікавіўшыся гэтым, я звярнуўся да турэмнага інспектара графа Талстога за дазволам падняць за свой кошт падлогу ў адной з камер турмы.

Граф Талстой, які прыехаў неўзабаве пасля гэтага, дазволіў падняць драўляную падлогу ў камеры, суседняй з той, у якой утварыўся правал. Як толькі паднялі падлогу, нага аднаго з рабочых правалілася ў пустату. Ачысцілі зямлю і ўбачылі пад ёю цагляную столь. Расшырылі правал і спусціліся ў вузкі калідор, добра атынкаваны і пабелены. З калідора вялі дзверы пад тую камеру, дзе раней утварыўся правал. Але прабрацца туды было немагчыма...»

Да канца давесці пошукі Ярослаўцаву не ўдалося: пачалася першая сусветная вайна. Затым—Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі, грамадзянская вайна, барацьба з «ворагамі народа», Вялікая Айчынная...

У канцы пяцідзесятых гісторыкі зноў зацікавіліся старымі падваламі. Аднак, каб пачаць даследаванні, патрэбна было заключэнне аўтарытэтнай камісіі. Яе стварылі, і на стол начальніка Архіўнага ўпраўлення МУС БССР лёг адпаведны дакумент. Камісія ў складзе загадчыка аддзела Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР Кутузава, сакратара РК КПБ Маргелава і начальніка райаддзела міліцыі Беледзева выявіла, што да рэвалюцыі клімавіцкая турма размяшчалася на тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца выканком. Мясцовы жыхар, у мінулым настаўнік, Яфім Белавусаў паведаміў, што ён асабіста ведаў Ярослаўцава, ведаў, што раскопкі сапраўды праводзіліся, аднак вынікі іх захоўваліся ў тайне. Больш таго, пры аглядзе была знойдзена невялікая ніша, закрытая жалезнымі дзвярыма. Мяркуецца, што менавіта тут некалі быў ход у падвал, які сёння на глыбіні двух метраў завалены цэглай і зямлёй.

І гэта ўжо не чуткі і домыслы. Аднак на гэты раз праблема пошуку бібліятэкі «ўперлася» ў фінансы...

Так, толькі раней у пошуках скарбу адпраўляліся на край свету. Гэта настаўнік гімназіі Ярослаўцаў мог з асабістых зберажэнняў фінансаваць пошукі старадаўніх кніг, а ў нашай «магутнай» дзяржавы сродкаў не знайшлося. Таму гэтую справу пакінулі да лепшых часоў, а паступова і зусім пра яе забыліся. Ды так, што і да сённяшняга дня не прыадчынена заслона тайны старых клімавіцкіх падзямелляў. Якіх-небудзь сур'ёзных даследаванняў тут не праводзілася, а дакументы аб выніках работ мясцовага падзвіжніка, на жаль, не захаваліся. Ці будуць зроблены новыя спробы пошуку старадаўніх кніг?

— На жаль, пытанне па-ранейшаму звязана з грашыма, — паведаміў начальнік Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Міхальчанка. — Камісія «Вяртанне» Беларускага фонду культуры ўжо выходзіла з такой ініцыятывай, дабіліся мы і згоды клімавіцкіх улад на даследаванні ў іх вотчыне. Аднак жадаючых фінансаваць падобнае мерапрыемства не знайшлося. І ўсё ж мы не трацім надзеі і па-ранейшаму шукаем спонсараў. Для тых, хто хацеў бы прыняць удзел у такой высакароднай справе, паведамляю разліковы рахунак: № 141030 дзяржды рэкцыі «Мінскбізнесбанка». Мы гатовы супрацоўнічаць з атрадамі добраахвотнікаў, моладдзю, краязнаўцамі.

С. КАЛІНКІНА.



## СЯРОД НАЧНОЙ ЦІШЫ

**Упершыню Калядная ноч прынесла ўсім католікам на Беларусі шчырую радасць — яны адзначалі сваё адвечнае свята, не тоячыся ад партыйнага вока, якое пільна сачыла, хто ходзіць у касцёл. Першым пасля прыняцця Вярхоўным Саветам Рэспублікі Закона аб святочных днях адзначаліся менавіта каталіцкія Каляды.**

**НА ЗДЫМКАХ, зробленых у яшчэ не адноўленым Кафедральным касцёле Мінска, вы бачыце набажэнства, якое адпраўляў ксёндз Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК. Пад скляпеннямі храма сярод начной цішы неслася гаючая мелодыя, што поўніла душу спакоем і любасцю.**
**Бог нарадзіўся.**

**Шкада, што толькі на польскай мове...**

**Фота В. СТАВЕРА.**







*СПОРТ*

### У ДЗЕСЯТЦЫ МАЦНЕЙШЫХ

Мінскі грасмайстар Барыс Гельфанд уваходзіць у дзесятку мацнейшых шахматыстаў свету.

Міжнародная шахматная федэрацыя абнародавала ў сталіцы Філіпін рэйтынгавы ліст, які па-ранейшаму ўзначальвае чэмпіён свету Г. Каспараў — 2 780 ачкоў. На другім месцы масквіч А. Карпаў (2 725), на трэцім — В. Іванчук з Львова (2 720). За першай тройкай месцы ў дзесятцы мацнейшых занялі: англічанін Н. Шорт (2 685), В. Ананд з Індыі (2 670), Б. Гельфанд (2 665), А. Шыраў з Эстоніі, Г. Камскі з ЗША і грасмайстры А. Юсупаў і В. Салаў (усе — па 2 655 ачкоў).

## ПАД ПЕРШЫМ НУМАРАМ— ІГАР ЖАЛЯЗОЎСКІ

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па фізічнай культуры і спорту, Асацыяцыя спартыўнай прэсы і рэдакцыя газеты «Физкультурник Беларуси» падвялі вынікі конкурсу «Дзесяць лепшых спартсменаў рэспублікі ў 1991 годзе». Чарговы раз за апошнія некалькі гадоў гэты спіс узначаліў заслужаны майстар спорту, чатырохразовы чэмпіён свету па спрынтарскаму мнагаборству канькабежац Ігар Жалязоўскі.

У дзесятцы лепшых—неаднаразовы чэмпіён свету, пераможца Алімпійскіх гульняў у Сеуле штангіст Аляксандр Курловіч, плыўчыха Алена Рудкоўская—трохразовая чэмпіёнка Еўропы, алімпійская чэмпіёнка, двухразовая чэмпіёнка свету лёгкаатлетка Таццяна Лядоўская, пераможца Уімблдонскага турніру тэнісістка Наталля Зверава, алімпійская чэмпіёнка па спартыўнай гімнастыцы Святлана Багінская, чэмпіён свету ў гэтым жа відзе спорту Віталь Шчэрба, чэмпіён свету па класічнай барацьбе Сяргей Смаль, чэмпіён свету ў спартыўнай хадзьбе на 50 кіламетраў Аляксандр Паташоў і алімпійскі чэмпіён і чэмпіён свету па веславанню Віктар Рэнейскі.

Як бачым, сапраўднае сузор'е чэмпіёнаў!

### КАНДЫДАТ У АЛІМПІЙЦЫ

**Зорныя гадзіны васемнаццацігадовая гамяльчанка Лена Рудкоўская перажыла ў жніўні гэтага года на чэмпіянаце Еўропы, што праходзіў у Афінах. Упершыню за гісторыю жаночага плавання ў нашай краіне яна змагла з трох магчымых залатых медалёў заваяваць усе тры, паказаўшы лепшыя вынікі ў плаванні на 100 і 200 метраў стылем брас. У камбінаванай жа эстафеце 4×100 Лена не толькі змагла нагнаць час, упушчаны папярэдняй плыўчыхай, але і зрабіць задзел, што дазволіў нашай камандзе выйсці ў пераможцы. Цяпер Лена рыхтуецца да маючых адбыцца Алімпійскіх гульняў. У Гомелі даводзіцца бываць ёй нячаста. Тым больш радасныя сустрэчы з роднымі, з першым трэнерам Верай Лаўровай, якая дала пуцёўку ў вялікі спорт цяперашняму майстру міжнароднага класа.**



**НА ЗДЫМКУ: майстар спорту міжнароднага класа Алена РУДКОЎСКАЯ.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ПОЛЬСКІ ОРДЭН – БЕЛАРУСУ

Вышэйшы знак салдацкай славы—сярэбраны крыж «Віртуці мілітары»—уручаны жыхару гарадскога пасёлка Воранава, былому жаўнеру Войска Польскага Браніславу Міхневічу. Ён узнагароджаны таксама памятным медалём «За ўдзел у абарончай вайне 1939 года».

23-гадовага хлопца з вёскі Навасады паблізу Воранава прызвалі ў польскую армію ў сакавіку 1939 года, а праз тры месяцы ён трапіў на паўвостраў Вестэрплатэ непадалёку ад Гдыні, дзе служыў у батальёне маёра Сухарскага—будучага нацыянальнага героя Польшчы. Тут яго і застала другая сусветная вайна. Пачалася яна з гарматных залпаў фашысцкіх лінкораў, якія ва ўпор абстралялі паўвостраў. Нешматлікі гарнізон мужна трымаўся цэлы тыдзень, але вымушаны быў капітуляваць. Разам з іншымі байцамі Браніслаў трапіў у палон і да лютага 1945 года знаходзіўся на прымусовых работах у невялікім гарадку Кентчын ва Усходняй Прусіі. Тут яго і вызвалілі нашы войскі.

Браніслаў Міхневіч—адзін з чатырох былых воінаў польскай арміі, якія пражываюць цяпер у Беларусі і якія перажылі баі на Вестэрплатэ. Высокія ўзнагароды яму ўручыў віцэ-консул генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Мінску Кшыштаф Длужэўскі.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаю дзяцей і ўнукаў **БАГДАНОВІЧА Яся (Яна) Францавіча**, які выехаў у ЗША на пачатку стагоддзя з вёскі Старая Рудзіца, што на Міншчыне. Жонка яго—**Мядзвецкая Марыя**—з вёскі Курганне.

У Амерыку **Я. Ф. Багдановіч** выязджаў разам з братам **Багдановічам Уладзіславам (Уладзімірам) Францавічам** і жонкай яго **Амэліяй.** У іх там нарадзіліся два сыны—**Іосіф (Юзік)** і **Ольгерд.** Жылі яны на той час ці то ў Чыкага, ці ў Нью-Йорку.

Мой адрас: **220067, Мінск, вул. Русіянава, 24, кв. 427.**
Хатні тэлефон: 60-86-02.
**БАГДАНОВІЧУ Уладзіміру Іосіфавічу.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 1979(а).

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12